ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 3 (150) 19 - 25 студзеня 1996 г. Кошт 800 рублёў

*ЗАМЕСТ ПАДЗЯКІ - ДУЛЯ З МАКАМ!* - ст. 3.

*ЗНОЎ СТРЭЛЫ НА МЯЖЫ* - ст. 4.

*АЛЬМАНАХ "КРУТЫХ" ДЖЕНТЛЬМЭНАЎ* - ст. 8.

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.*

## ПЕРШАЙ СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТУ 13 СКЛІКАНЬНЯ СТАРШЫНІ ВС С.ШАРЭЦКАМУ, ДЭПУТАТАМ ВС С.БАГДАНКЕВІЧУ І С.КАЛЯКІНУ

Расейскія ўзброеныя сілы, пасьля паржэньня ў баі з чачэнскімі салдатамі зьбіраюцца на вачах усяго сьвету ажыцьцявіць чарговы безпрэцэдэнтны акт варварства і злачынства супраць чалавецтва -сьцерці з твару зямлі дагестанскі пасёлак Першамайскі разам з жыхарамі шляхам нанясеньня масіраванага бомбавага, ракетнага, артылерыйскага ўдару. Пра гэта стала вядома з расейскіх афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі.

Прашу Вас тэрмінова зьвярнуцца да кіраўніцтва Расейскай Федэрацыі з палітычнай заявай аб недапушчальнасьці антыгуманных дзеяньняў у дачыненьні да мірнага насельніцтва і народаў, адвесьці войскі і спыніць запланаваную акцыю зьнішчэньня пасёлка Першамайскі.

**ЗЯНОН ПАЗЬНЯК,**
**старшыня Беларускага Народнага Фронту**
**17.01.96.**

## НА ГАЛКО І ШАПКА ГАРЫЦЬ

**26 сьнежня галоўны рэдактар «Народнай газеты» Мікалай Галко ў артыкуле «Талентам жыць! Глупствам згінуць» напісаў «...Гродзенская газета «Пагоня» абвінавадціла нас, што ў публікацыях пра Вячаслава Кебіча, пра каштоўныя паперы падпісаныя ім, рэдакцыя выконвала волю неразумных памочнікаў Прэзідэнта Лукашэнкі А.Р.**

**Хочацца сказаць так: калі не ведаеш, што сказаць, лепш памаўчы, бо атрымаецца глупства.»**

Выдатна напісаў, лепш і ня скажаш. Праўда, ёсьць адзін нюанс. Не абвінавачвала ніколі газета «Пагоня» рэдакцыю «НГ», бо лічыць, што ня «царское это дело». На гэта ёсьць зусім іншыя ворганы.

Больш таго. У невялічкай нататцы «Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з Вячаславам Кебічам» (N 48 ад 8 сьнежня 1995г.) рэдакцыя «НР» і асабіста яе галоўны рэдактар нават не ўзгадваюцца. Ёсьць там, праўда, цытата прэзідэнта, які заявіў Кебічу, што скандал з векселямі арганізавалі яго «бездарные помощники». Але пры чым тут Галко? Няўжо ён адносіць сябе да «бездарных помощников»? Калі так, то чаму свой гнеў з гэтай нагоды накіроўвае ў адрас «Пагоні», а не прэзідэнта?

***

*-Рыбанька, - зьвяртаецца пасажыр аўтобуса да сваёй суседкі. - Пракампасіруй талончык!*

*Дзяўчына моўчкі аналізуе: »Рыбанька - значыць, рыба. Рыба - значыць, шчупак. Шчупак - значыць, з зубамі. З зубамі - значыць, сабака. Сабака - значыць, сука».*

*- Таварышы, ён мяне прастытуткай абазваў!*

Гэта анекдот пра жаночую логіку. Вы спытаеце прычым тут рэдакцыя «НГ» і яе галоўны рэдактар? Шчыра скажу, ня ведаю. Наколькі памятаю, спадар Галко некалі меў бараду. А калі чалавек з барадой - значыць, мужчына!

**МІКОЛА ТУРАВЕЦ.**

## КАМУНІСТЫ З ДЭМАКРАТАМІ ЯДНАЮЦЦА

Абраньне старшынём Вярхоўнага Савету Сямёна Шарэцкага і яго намесьнікамі прадстаўнікоў розных фракцый - какмуніста Васіля Новікава, Юрыя Малумава («Згода») і Генадзя Карпенку («Грамадзянскае дзеяньне») засведчыла, што новы парламант пакуль маналітны.

Спробы прэзідэнта і яго акружэньня раскалоць парламант ня маюць посьпеху Лукашэнка выступіў перад дэпутатамі на закрытым сходзе з чатырохгадзінным дакладам, у якім шмат крытыкаваў лідара фракцыі «Грамадзянскае дзеяньне», былога галоўнага банкіра краіны Станіслава Багданкевіча, які балатаваўся на пасаду галоўнага намесьніка сьпікера. Разьлік быў просты - зваліць Станіслава Антонавіча і не дапусьціць на гэтую пасаду дэмакратаў. Адразу завагалася фракцыя «Згода» - ці трэба выбіраць Багданкевіча? Але ў яго абарону выступілі камуністы, якія запатрабавалі выконваць дамоўленасьці. Дэмакраты ня сталі выпрабоўваць свайго лідара, а замест яго вылучылі кандыдатуру вядомага палітыка Генадзя Карпенку. Гэтая кандыдатура прайшла без усялякіх абмеркаваньняў.

*Ленін Вялікі нам шлях азарыў!*

Як будзе змагацца прэзідэнт з Вярхоўным Саветам - сказаць цяжка. Аднак звальваць усе беды на парламант ён ужо ня зможа. Дарэчы, у кулуарах Сямён Шарэцкі недвухсэнсоўна сказаў шэфу прэзідэнскай адміністрацыі, што Лукашэнка павінен ведаць сваё месца, а ён, Шарэцкі, сваё. Дэпутаты зараз разыйшліся па фракцыйных кватэрах. Тыя, хто не запісаўся ў якую-небудзь фракцыю, ніякага ўплыву ня робяць. Самай шматлікай фракцыяй зьяўляецца «Згода», у якой налічваецца 59 безпартыйных дэпутатаў. Гэта прапрэзідэнзкая групоўка, аб чым сьведчыць абраньне яе кіраўніком саветніка прэзідэнта Уладзіміра Канаплёва, хоць стварылі яе дэпутаты Красуцкі і Цярэшчанка. Фракцыя вельмі неаднародная па свайму складу. Тут ёсьць і вертыкальшчыкі, і работнікі адміністрацыі прэзідэнта, і работнікі праваахоўных органаў, і дэпутаты, якія ўвогуле невядома


*Дзякуй, Васіль! Не чакай!*

чаго сюды запісаліся, як, напрыклад, Сямён Домаш, які, відаць, хоча атрымаць пасаду, ці былая нясьвіжская партыйная функцыянерка Марыя Худая. Запісаліся ў фракцыю таксама Кебіч, Саковіч, Ганчарык, Ягораў. А вось хітры Каратчэня, прозьвішча якога занесена ў сьпісы, свайго подпісу не паставіў. Назіральнікі ўпэўненыя, што маналіту ў фракцыі ня будзе і да канца году яна расколецца.

У фракцыі аграрнікаў 47 дэпутатаў. Пасьля таго, як адыйшоў С.Шарэцкі, кіраўніком яе стаў Вячаслаў Геруц. Аднак і ўнутры гэтай фракцыі таксама існуюць супярэчнасьці, перш за ўсё ідэйныя.

Самыя дысцыплінаваныя з іх камуністы, фракцыя якіх налічвала 44 чалавекі. Можна сказаць, што яны пакуль і самыя дабрасумленныя - усе дамоўленасьці свае выконваюць. Часта можна бачыць, як Малафееў, Калякін, Новікаў дя іншыя камуністы вядуць перамовы з дэмакратамі. У прыватнасьці яны станоўча ацанілі абраньне намесьнікам Шарэцкага Генадзя Карпенку, заўважыўшы, што ў іх і ў дэмакратаў шмат агульных задач. Аднак і ў камуністаў існуюць унутранныя супярэчнасьці - паміж групоўкамі Новікава і Калякіна.

Фракцыя «Грамадзянскае дзеяньне» складаецца з 19 дэпутатаў. Сярод іх ня толькі члены Грамадзянскай партыі, але і некалькі беспартыйных. Напрыклад, вядомы прадпрымальнік Андрэй Клімаў. Нягледзячы, на малую колькасьць самая інтэлектуальная фракцыя актыўна ўплывае на працэсы ў парламанце. Думаецца, што калі дэмакратам удасца дамаўляцца па важнейшых пытаньнях з камуністамі, то менавіта гэтыя дзьве фракцыі і стануць вызначаць жыцьцё парламанту.

Найменшым уплывам карыстаецца фракцыя сацыял-дэмакратаў. Узначальвае яе лідар Партыі народнай згоды Леанід Сечка. Туды ўваходзіць і Пятро Краўчанка. А ў апошні момант сацыял-дэмакратам стаў... Віктар Кучынскі, чым усіх зьдзівіў. Меркавалася, што ён будзе актыўным членам «Згоды».

На апошніх паседжаньнях дэпутаты дзялілі пасады старшынь парламанцкіх камісій.

**У.СЕМЯНЦОЎ**

## ГУЛЬНЯ Ў «КУБІКІ» ПРАЦЯГВАЕЦЦА

**З 16 студзеня ўведзены ў дзеяньне новыя правілы размытненьня эўрапейскіх легкавікоў. За кожны кубічны сантыметр рухавіка цяпер трэба будзе заплаціць 0,3 экю.**

У пераразьліку гэта складзе ад 500 да 800 даляраў у залежнасьці ад маркі аўтамашыны. Да гэтага роўна чатыры месяцы на заходнія легкавікі дзейнічалі «драконаўскія» зборы ў памеры 5 экю за «кубік». Па падліках эканамістаў страты дзяржавы за акрэсьлены перыяд склалі каля 7 мільёнаў «зялёных».

Паводле зьмененых правілаў аформіць танна аўтамабіль можна толькі пры ўмове, калі няма намераў прадаць яго на працягу года.

**У.МАЙНІЧ.**

## ДАПАМАЖЫ САБЕ САМ!

**Самымі беднымі людзьмі на Беларусі зьяўляюцца ... міністры. Напэўна з гэтай нагоды напярэдадні Новага Году прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір зрабіў ім падарунак, варты самога Дзеда Мароза.**

29 сьнежня пабачыла сьвет распараджэньне №1146, адзін з пунктаў якога прадпісвае: "Аказаць матэрыяльную дапамогу міністрам, кіраўнікам іншых цэнтральных ворганаў кіраваньня, старшыням аблвыканкамаў і Менскага гарвыканкаму ў памеры іх службовага акладу".

Даражэнькія пеньсіянеры, інваліды, маці-адзіночкі, бяспрацоўныя! Не звяртайцеся за дапамогай да міністраў - ім самім мала.

**Віктар Людвіковіч**

## ПІЦЕ ШАМПАНСКАЕ З ГАРАДЗЕНСКІХ БУТЭЛЕК.

На гарадзенскім шклазаводзе распачалі выпуск новай прадукцыі -бутэлек для разьліву шампанскіх вінаў. Потым на гэтую прадукцыю аказаўся вялікім. На заводзе змантавалі новую шклаплавільную печ ды разгарнулі прыём шклабою ды шклаблокаў, якія і ідуць на выраб новай прадукцыі.

**ВІНЦУК МАЛЬСКІ**

## ЦІ ІСНУЕ ЧАЦЬВЁРТАЯ ЎЛАДА?




**"Асаблівасьці арганізацыі і дзейнасьці незалежных сродкаў масавай інфармацыі ў посттаталітарных краінах". Семінар з такой назвай адбыўся 17-га студзеня ў Горадні. Арганізаваў яго Беларускі Рэспубліканскі Фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Льва Сапегі пры дапамозе Агенцтва міжнароднага развіцьця ЗША (Фонд "Эўразія").**

Удзел у семінары прынялі журналісты гарадзенскіх сродкаў масавай інфармацыі, сябры шэрагу грамадзкіх арганізацый вобласьці. Асноўны даклад выклаў каардынатар праграм Фонду імя Льва Сапегі, кандыдат філасоўскіх навук Уладзімір Роўда. Ён распавёў пра ролю незалежных сродкаў масавай інфармацыі ў фармаваньні грамадзянскай супольнасьці. Праблемы, зьвязаныя з журналісцкай этыкай былі асноўнай тэмай выступу Андрэя Завадзкага, таксама каардынатара праграм Фонду. Пасьля цікавай дыскусіі адбылася прэзэнтацыя першага выпуску бюлетня "Грамадзянская супольнасцьь", выдадзеннага нядаўна Фондам імя Льва Сапегі.

**Вітаўт Руднік.**

## МЭРСЭДЭС -НЯМЕЦКІ. КАРДАН -ГАРАДЗЕНСКІ

Сёньня значную частку прыватнага аўтапарку ў Беларусі складаюць патрыманыя BMW, «Аўдзі», Мэрсэдэсы і г.д. Запчасткі да іх карыстаюцца на аўтарынку вялікім попытам. Таму ў канструктарскім бюро завода карданных валоў вядзецца зараз распрацоўка карданаў для іншамарак. Магчыма, праз некаторы час на нашых вуліцах будуць езьдзіць «Мэрсэдэсы» з гарадзенскімі дэталямі

**В.Р.**



# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## СОЙМ БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

**13 студзеня 1996 году ў Менску адбыўся чарговы Сойм Беларускага Народнага Фронту «Адраджаньне». Сойм разглядзеў стратэгічныя задачы Фронту ва ўмовах пазапарламанцкай апазіцыі.**

Старшыня БНФ Зянон Пазьняк ахарактарызаваў сітуацыю ў краіне, як сітуацыю этнацыду, мэтанакіраванага зьнішчэньня беларускай нацыі:

«...Фактычна за апошнія паўтара года, а то трошкі болей, адбываецца прыхаваны і непрыхаваны этнацыд, зьнішчэньне беларускай культуры, мовы, нацыянальнай прэсы, навукі, адукацыі і нацыянальнай сьвядомасьці цэлага пакаленьня. Калі мы праанализуем стан у навуцы і іншых галінах, асабліва гуманітарнай сьферы, то заўважым такую самую палітыку, прытым мэтанакіраваную і пасьлядоўную. Яна ідзе крок за крокам, зьява за зьявай. Гэта палітыка адшчыпваньня кавалкаў. Прэса манапалізавана. Адбываецца звужэньне сьферы ўжываньня беларускай мовы церазматэрыяльны націск. Гэта не пытаньні крызісу, гэта пытаньні мэтанакіраванай палітыкі. Палітычная акцыя ,накіраваная супраць нашай школы, працягваецца. Цяпер ня проста не дапускаецца нічога беларускага (як пры бальшавіках), цяпер праводзіцца палітыка на вынішчэньне яго, на дыскрэдытацыю, на рэвізію гісторыі, на доказы розных міфаў, якія былі прыдуманы нашымі непрыяцелямі за часы акупацыі...»

Што ж прапануе Зянон Пазняк супрацьпаставіць этнацыду беларусаў? Нацыянальную ідэю.

«...Багацейшы вопыт гісторыі Эўропы паказвае, што адзіная кансалідавальная ідэя, адзіная дэмакратычная ідэя, якая стварае дзяржаву, нацыю, будучыню - гэта ёсьць ідэя нацыянальная. Нас 80 працэнтаў беларусаў на Беларусі. Вось усе гэтыя людзі незапатрабаваныя нацыянальнай ідэяй... Мы ставім знак роўнасьці паміж беларусамі і грамадзянамі Беларусі. Людзі, якія жывуць на Беларусі і ўспрымаюць беларускую нацыянальную ідэю і ёсьць беларусы, ёсьць грамадзяне Беларусі. У 19-м стагоддзі быў такі лозунг « Польшча для палякаў, Францыя для французаў і г.д.» Цяпер мы маем формулу 20-га стагоддзя. І формула сёньня гучыць так: «Беларуская дзяржава, беларуская мова, дэмакратыя». Прыдомак «дэмакратыя» абавязковы каб грамадзяне іншага паходжаньня маглі рэалізаваць свае нацыянальна-культурныя інтарэсы ў нашай дзяржаве і любой іншай.

Сойм даў ацэнку генацыду, які праводзіць расейская ваеншчына ў Чачні, асудзіў міжнародную супольнасьць за маўклівае патураньне вынішчэньню чачэнскага народу.

Сойм прыняў заявы: «Аб «стратэгічным курсе» Расейскай Федэрацыі і абароне дзяржаўных інтарэсаў Беларусі», «Да гадавіны расейска-чачэнскай вайны», «Да 700-х угодкаў беларускага нацыянальнага сімвала «Пагоня», «Аб палітычна-крымінальнай акцыі ў Віцебску».

**СТАНІСЛАЎ СУДНІК**

## АБ «СТРАТЭГІЧНЫМ КУРСЕ» РАСЕЙСКАЙ ФЭДЭРАЦЫІ І АБАРОНЕ ДЗЯРЖАЎНЫХ ІНТАРЭСАЎ БЕЛАРУСІ

### ЗАЯВА СОЙМУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

Яшчэ 14 верасьня 1995 г. прэзідэнт Расейскай Федэрацыі Б.Ельцын падпісаў указ N 940 «Аб зацьверджаньні Стратэгічнага курсу Расейскай Федэрацыі з дзяржавамі - удзельніцамі Садружнасьці Незалежных Дзяржаў». Гэты дакумант расейскія ўлады не афішавалі, але ён усё ж быў апублікаваны ў беларускай і ўкраінскай незалежнай прэсе.

У тэксьце дакуманту, у прыватнасьці, гаворыцца: «...На тэрыторыі СНД засяроджаныя нашыя галоўныя жацьцёвыя інтарэсы ў галіне эканомікі, абароны, бясьпекі, абароны правоў расіянаў, забясьпечваньне якіх складае аснову нацыянальнай бясьпекі краіны» (п.1). Тэрыторыі дзяржаваў СНД адкрыта называюцца «зонай інтарэсаў Расеі» (п.14). Ставіцца задача ўмацаваць Расею ў якасьці «вядучай сілы» ў рэгіёне (п.4), для чаго плануецца зацягнуць постсавецкія дзяржавы ў палітычнае аб'яднаньне (п.1.2) і «абаронны саюз» (п.12), дамагчыся аховы «межаў па перыметры СНД ... супольнымі намаганьнямі» (п.13), захоўваць вядучае становішча Расеі на рынках СНД» (п. 19), ажыцявіць інфармацыйную экспансію Расеі ў краіны СНД (п. 15) і г.д.

«Стратэгічны курс» - гэта курс экспансіі, гэта шырокая праграма забесьпячэньня панаваньня Расеі ў рэгіёне і падначаленьня ўсёй дзейнасьці дзяржаваў СНД інтарэсам Расеі. Гэты дзяржаўны акт перакрэсьлівае самыя кволыя спадзяваньні на тое, што СНД зможа функцыянаваць менавіта, як садружнасьць, г.зн. орган каардынацыі дзейнасьці раўнапраўных суб'ектаў. Наадварот, рэалізацыя дактрыны»стратэгічнага курсу» на практыцы азначала б адсоўваньне іншых дзяржаваў СНД зь міжнароднай арэны як самастойных суб'ектаў.

Выказваньні і справы расейскага кіраўніцтва - нядоўгія словы віцэ-прэм'ера А.Бальшакова пра тое, што Расея нясе «адказнасьць» за краіны СНД, імкненьне заваладаць маёмасьцю (інфраструктураю, нафтагазавым комплексам) на тэрыторыі постсавецкіх дзяржаваў, зацягваньне краін СНД у сістэму «калектыўнай бясьпекі», што зноў апынулася на парадку дня, - усё гэта сьведчаць, што «дактрына» пачала рэалізавацца. А чачэнскія падзеі паказваюць усяму сьвету, як разумее афіцыйная Масква «адказнасьць» за тыя, ці іншыя тэрыторыі.

Разнастайныя расейскія патрабаваньні і ўльтыматумы эканамічнага, зьнешнепелітычнага і вайсковага характару паслухмяна выконваюцца беларускім бокам. Пераходзіць у расейскую ўласнасьць нафтагазавы комплекс. Крок за крокам Беларусь уцягваюць у сістэму «калектыўнае бясьпекі», якая на пратыцы можа азначаць толькі ўдзел Беларусі ў чужых войнах. Дзеяньні прэзідэнта і ўсёй выканаўчай улады Рэспублікі Беларусь сьведчаць, што яны ня здольныя адстаяць нацыянальна-дзяржаўныя і эканамічныя інтарэсы нашай краіны перад аблічам непрыхаванай расейскай экспансіі.

Беларускі Народны Фронт патрабуе ад новаабранага Вярхоўнага Савету нашай краіны абароны беларускай незалежнасьці, узгадненьня палітыкі ў межах СНД з іншымі дзяржавамі, у першую чаргу з Украінай. Чакаем рашучых дзеяньняў ад новага Вярхоўнага Савету Беларусі у кірукнку абароны незалежнасьці краіны.

**13 студзеня 1996 г. г.Менск**

## СПАДАРАМ САВІЦКАМУ І МЯСЬНІКОВІЧУ

Уважліва прачытаў у газеце «Звязда» умовы конкурсу на падвод фундаманту пад цяперашнюю сімволіку Беларусі. Я зразумеў, што Вы і той, хто зацееў гэты конкурс, не чыталі артыкулы вядомага расейскага вексілолага і геральдыста В.Сапрыкава, часопіс «Наука и жизнь» за 1992-1993 гг. «Сімволіка краін садружнасьці». Для таго, каб падвесьці надзейны фундамант пад сімволіку, то трэба гэту зямельку Беларускую перамясьціць у іншае месца зямнога шара, а гэта немагчыма.

Умовы конкурсу будаць выкананы, але гэта будзе байка-мана, якой нас кармілі на працягу 70-ці год. А ваенных ветэранаў не цікавіць гэты конкурс, яны ня могуць дачакацца падзеньня Ельцына і замены Уласаўска-царскай сімволікі ў Крамлі, а ў будучым замены Бэндэраўскай сімволікі ў Кіеве. Яны вельмі незадаволены, што першыя асобы нашай дзяржавы кланяюцца пры візітах Уласаўска-бэндэраўскім сьцягам (хотя бы стояли «смирно»). Я ня ведаю сустракаўся ў 1992 годзе ў Маскве сп. В.Сапрыкаў і дэпутат А.Лукашэнка, але ж у артыкуле пра сімволіку Беларусі («Наука и жизнь» 1992 г. N 10 стр.19) ён пісаў: «Национальные цвета народов не могут определятся волей тех или иных деятелей, решениями, указами и постановлениями государственных органов. Они несут на себе печать истории, идут из традиций, духовных начал народов, имманентно присущи каждому из них. В этом их сила. Отсюда и стремление вернуться к истокам». Як гавораць - тут дадаць няма чаго. А нацыянальная сімволіка бела-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня» існуе і будзе існаваць, і, хаця яна ўсім народам не прынята, гэта віна ў першую чаргу прэзідэнта, які закрыў у сродках масавай інфармацыі гістарычную праўду пра сімволіку... і таму беларус, нарадзіўшыся пад крыжам, прагаласаваў супраць яго, прагаласаваў за зьвязду.

А існуючая сімволіка ёсьць і будзе сімволікай прэзыдэнцкай і такое яе месца ў гісторыі.

**А.МІСЬЦЮКЕВІЧ.**

## *ПАД НАРКАТОЮ*

**Шаноўны калега К.Скліфасоўскі ў артыкуле «Чаму не адбыліся выбары» («Пагоня» N48 ад 22 сьнежня 1995 году) параўнаў сістэму выбараў з страўнікава-кішачным шляхам і лічыць, што гэтым шляхам ідзе ўвесь наш народ. Але ён памыліўся. Толькі мазгі кіруюць у любым механізме, таксама і ў грамадзянскім. А якія ў нас усіх мазгі?**

Што такое прапаганда, якая лілася на нас усе гады Савецкай улады? Гэта не што іншае, як грамадзкі наркотык. Паглядзіце, што рабілася пад яго ўплывам. Эйфарыя цягнулася даволі доўга. Была і самаадданасьць і энтузіязм, і нават самаахвярнасьць. Памятаеце чалавечыя натоўпы, ахопленыя адзінай ідэяй? Але нарколагі ведаюць, што гэта ня можа працягвацца ўвесь час. Патрэбны ўсё большыя і большыя дозы, і павялічваліся дозы, але ўсё меньш было узьдзеяньне. І калі перайшлі мяжу пачалася ломка. Мы бачылі, як грамадзянскі арганізм, атручаны наркатою, хапаўся за ўсё, што прыдзецца. Спачатку пачалі піць (сьпіртное зразумела) усё больш і больш. Потым пачаліся палітычныя сутаргі. Ад гэтых сутаргаў разваліўся нават былы Саюз. А лячыць ніхто ня лечыць. І вось зараз хворы арганізм калоціць у ломцы. За што ён не хапаўся ўжо! І за Вярхоўны Савет і за Прэзідэнта... І калі надышлі чарговыя выбары, то вялікая частка - і ня толькі ў Беларусі - зноў пацягнулася да звыклага наркотыку - камуністычнай ідэалогіі. Частку ўсё яшчэ кідае ў сударгі. Тут прага ў адных да фашызму, у другіх - да дэмакратыі без берагоў. А большасьць ужо даўно ляжыць у ідэялагічным паралюшы. Пры гэтым зьнешне ўсё як у людзей - ходзіць, працуе і г.д. А наконт лячэньня я згодзен з калегам - ачысьціць трэба арганізм. І ад камунізму, і ад дыктатуры, і, нават, ад «Ачышчэньня».

Вось тады, можа, і атрымаецца здаровае грамадзтва.

**А.БЕЛ-ГАРАЧКІН,**
**прафесар.**

## КАНГРЭС МАЛАДЫХ ПАЛІТЫКАЎ

З 18-га студзеня ў менскім міжнародным адукацыйным цэнтре працуе Другі кангрэс маладых палітыкаў і делавых людзей Беларусі, арганізаваны Асацыяцыяй маладых палітыкаў і Фондам Эберта.

З Горадні для ўдзелу ў мерапрыемстве запрошаныя сябры Асацыяцыі маладых навукоўцаў "ВІТ" Сяржук Салей і Алесь Пагуляеў. Праца кангрэса працягнецца да 21-га студзеня.

**В.М.**

## АБ ПАЛІТЫЧНА-КРЫМІНАЛЬНАЙ АКЦЫІ Ў ВІЦЕБСКУ

### ЗАЯВА СОЙМУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ

22 сьнежня 1995 г. у 19.15 у Віцебску спачатку супрацоўнікам ворганаў унутраных спраў, а потым байцамі амону быў жорстка зьбіты сябра Сойму БНФ, рабочы «Віцебскпраектрэстаўрацыі» Алесь Янушкоўскі. Ніякіх законных падставаў для ўжываньня фізічнай сілы супраць сп. Янушкоўскага не было. Таму Беларускі Народны Фронт расцэньвае гэтае здарэньне як акт палітычнага перасьледу.

Гэта - працяг палітыкі грубай сілы ўладаў у дачыненьні да палітычных апанентаў, якая летась праявілася ў зьбіцьці дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12 красавіка, разгону ўдзельнікаў шэсьця ў Дзень незалежнасьці ды падаўленьня страйку работнікаў Менскага метрапалітэну.

Сойм БНФ выказвае пратэст з прычыны гэтых ганебных дзеяньняў і патрабуе пакараньня ініцыятараў ды выканаўцаў крымінальна-палітычнай акцыі ў Віцебску.

Сойм БНФ лічыць патрэбным паведаміць пра гэта прадстаўнікам дыпламатычнага корпусу і міжнародным праваабарончым арганізацыям.

**13 студзеня 1993 г. г.Менск**

## ДА 700-Х УГОДКАЎ ДЗЯРЖАЎНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА СІМВАЛА «ПАГОНЯ»

### ЗАЯВА СОЙМУ БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

Роўна 700 гадоў таму, на мяжы 1295-96 гадоў, у першай сталіцы ВКЛ горадзе Навагрудку вялікі князь Віцень абвясьціў спрадвечны герб «Пагоня» дзяржаўным гербам нашай старажытнае дзяржавы.

Герб «Пагоня» быў народжаны ў сівыя часы нашай гісторыі, у барацьбе нашага народу за свабоду краіны. Пад беларускім дзяржаўным гербам «Пагоня» адбыліся найвялікшыя перамогі нашай зброі на Сініх Водах і пад Масквой, пад Грунвальдам і пад Клецкам, пад Воршай і на рацэ Вуле. Пад Пагоняй у 1579 годзе Полацкая зямля была вызваленая ад маскоўскіх захопнікаў, у 1605-м годзе былі разьбітыя швэды пад Кірхгольмам, у 1621-м адбылася найбуйнейшая перамога над туркамі пад Хоцінам. Менавіта пад «Пагоняй» у 1794 г. паўставалі супраць захопнікаў войскі Якуба Ясінскага, а ў 1863 г. касінеры К.Каліноўскага змагаліся за незалежнасьць Бацькаўшчыны.

У 1918 г., з абвешчаньнем незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, наш гістарычны сімвал зноў стаў дзяржаўным гарбам. А ў 1991 г. герб «Пагоня» заканамерна стаў дзяржаўным гербам Рэспублікі Беларусь.

Герб «Пагоня» адзін з самых старажытных гербаў у Эўропе і сьвеце. Герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сьцяг у адпаведнасьці з Законам Рэспублікі Беларусі ад 19 верасьня 1991 году зьяўляюцца афіцыйнымі дзяржаўнямі сімваламі нашай краіны.

Інсьпіраваны і праведзены антыбеларускімі сіламі 14 траўня рэфэрэндум па сваёй сутнасьці незаконны. Ён адбыўся з шэрагам парушэньняў, і вынікі яго ня маюць юрыдычнае моцы. Навязаныя Лукашэнкам сімвалы абразлівыя для Беларусі як сваёй гісторыяй, так і адсутнасьцю зьместу. Да таго ж большасьць беларускага народу на рэферэндуме не прыняла.

Сойм БНФ «Адраджэньне зьвяртаецца да ўсіх патрыятычных арганізацый краіны, да ўсяго беларускага народу правесьці ў 1996 г. сьвяткаваньне 700-х угодкаў дзяржаўнасьці герба «Пагоня». Сойм зьвяртаецца да Вярхоўнага Савету Беларусі з прапановай абвясьціць 1996 год Годам Беларускага Дзяржаўнага герба «Пагоня» і шырока адзначыць гэтую ўнікальную дату нашае гісторыі.

Сойм зьвяртаецца да Вярхоўнага Савету з заклікам не зацьвярджаць вынікаў ганебнага рэфэрэндуму і стварыць камісію для расьсьледваньня парушэньняў Канстытуцыі і законаў пры яго правядзеньні.

Беларуская нацыянальная сімволіка жыла вечна і будзе жыць, пакуль будзе на зямлі Беларусь і беларускі народ!

**13 студзеня 1996 г. г.Менск**

# *У АГАРОДЗЕ БУДЗІНА, А Ў КІЕВЕ - ДЗЯДЗЬКА*

**Героі публікацыі «Сторонники классического пасквилянства» (Пагоня N2 ад 12 студзеня) зноў на практыцы паказалі, што «привычка - вторая натура». Не пасьпела толкам прасохнуць друкарская фарба на старонках таго нумару, як у рэдакцыі «Пагоні» зьявілася ксеракопія іхнага чарговага... твору. Вось яго даслоўны тэкст:**

*Шаноўны спадар рэдактар!*

*З пачуцьцём глыбокай задаволенасьці выказваем шчырую падзяку ўсёй «Пагоні», а таксама яе мужнаму рыцару, што ў адрозьненьні ад нас, някемлівых «стукачоў» з такімі простымі па пашпарту прозьвішчамі, схаваўся за гучным для храбрасьці псеўданімам - «Рыгор Вострашабельскі», за хлусьню-нататку, якая яшчэ раз падмацавала нас у правільнасьці абранага шляху, а таксама вельмі выразна прадэманстравала, якія дабрадзеі стаяць на баку рэктара Гродзенскага універсітэту спадара Л.Ківача і яго дарадчыкаў Б.Клейна і Д.Карава. Што тут казаць, адразу відаць, усе вы - аднаго поля ягадкі. І таму мы ніколькі не сумняваліся, што першымі на падтрымку гэтых «шчырых беларусаў» адгукнецеся менавіта вы - «пагоняўцы», для каго барацьба за беларускасьць зьяўляецца толькі шырмай, за якой схавана ніхто ня ведае што, альбо варыянтам таго шляху, па якому як вам здаецца, імкнецца пайсьці шырокім фронтам увесь беларускі народ. Свае адносіны да вас, «сябры народу», людзі ўжо выказалі і на рэферэндуме, і на выбарах - гэта і ёсьць выбар народу. Так што, Рыгор, з табой нельга не пагадзіцца: гісторыя на самой справе пачынае «расстаўляць усіх па сваіх месцах». Вось чаму стаў не да спадобы «Пагоні» наш нікуды ня варты «хворы народ» і яго абраньнікі.*

*Ваша абыякавасьць да лёсу народу, яго культуры відавочна. Калі б у вас балела душа за лёс універсітэту, то вы б не чапляліся за форму нашага пратэсту супраць жабрацкага стану, у якім у значнай ступені па віне сёньняшняга яго кіраўніцтва, знаходзіцца наша вучэльня, не наклейвалі б на нас свае прымітыўныя ідэалагічныя ярлыкі, а зьвярнуліся б да канкрэтных фактаў. Але «Пагоню» яны не цікавяць, больш таго, яна іх фальсіфікуе.*

*Што датычыцца «навукоўцаў чысьцейшай вады», дык гэта ж курам на сьмех, адносна трэцяга аддяленьня ва ўніверсітэце мы таксама нешта чулі, і зусім не зьдзівімся, калі стане вядома, што яно зьяўляецца вашым філіялам.*

*Вельмі нам спадабалася і тое (за гэта вам асабістая падзяка), што аб'ектам бруднага паскеілянцтва з боку рыцараў «Пагоні» з тупымі шаблямі сталі на адной старонцы газеты ня толькі мы, нікому невядомыя універсітэцкія выкладчыкі, але і першыя асобы ў дзяржаве. Зьдзекі з іх сталі ўжо кепскай традыцыяй, асобы на гэта ўжо нават не рэагуюць, нам жа, відаць, выпадкова пашчасьціла. Шчыра кажучы, нам такое суседзтва ня толькі падабаецца, але й робіць своеасаьлівы гонар. Ну, а што далей? Мы, са свайго боку, абяцаем, што будзем рабіць усё, каб спыніць развальваньне ўніверсітэту і імкненьне яго сёньняшняга кіраўніцтва накіраваць яго разьвіцьцё па ілжываму шляху, выступаць за кансалідацыю ўсяго калектыву, каб ён меў магчымасьць па-сапраўднаму служыць народу Беларусі. Вам, «пагоняўцам», таксама ёсьць пра што падумаць, бо жыцьцё не стаіць на месцы, і трэба глядзець праўдзе ў вочы. Ну, а калі гэта для вас непрымальна, то працягвайце і надалей мужна падпісваць свае непрыстойнасьці такімі прыгожымі псеўданімамі, як «Рыгор Вострашабельскі», «З.Мяцёлкін», «Г.К.», «В.М.», «В.Р.», «Я.Т.» і іншымі хітрыкамі. Слухайце, няўжо сярод вас няма людзей з нармальнымі прозьвішчамі?*

*Хоць гэта і банальна, але ўсё ж напрыканцы дадамо, што мы мала разьлічваем на публікацыю гэтага пісьма ў «Пагоні». Калі ж надрукуеце, то будзем яшчэ раз вам удзячныя. А калі не , то будзем шукаць тых, хто вас пасьмялее. Думайце, хлопцы, думайце.*

*Ад імя апазіцыі «непотопляемомуКівачу»: А.Васкабоеў, прафесар; Б.Барíхін, прафесар; А.Бурыкаў, прафесар; С.Мінюк, прафесар; Я.Роўба, загадчык кафедры тэорыі функцый і функцыянальнага аналізу; В.Чарапіца, прафесар.*

Што можна зразумець з гэтай беліберды, напісанай па прынцыпу: «сам дурак!» Толькі тое,што аўтары будуць «Рабіць усё, каб спыніць развальваньне ўніверсітэту». Але гэта ня тычыцца, як мы бачым, ні праблем матэрыяльна-тэхнічнай базы ўніверсітэту, ні якасьці адукацыі, ні жабрацкіх заробкаў выкладчыкаў... Лейматыў усёй гэтай палітычнай траскатні адзін: «Даёшь ректорское кресло!»

Дайце нам «бразды» - жаданьне пахвальнае. Няма нічога дрэннага ў імкненьні прэтэндаваць на нешта больш важнае, чым займаешся. Але тады ўзнікаюць лагічныя пытаньні «Хто прэтэндуе, як прэтэндуе і навошта?» Так бы мовіць: »А суддзі хто?»

Няўжо тыя, хто ня можа без абразаў у адказ усрыняць крытыку ў свой адрас? Няўжо гэта тыя, хто выступаючы «за кансалідацыю усяго калектыву», выказваючы намер «служыць народу Беларусі», праз галовы таго ж калектыву закідваюць скаргамі адміністрацыю Прэзідэнта, міністра?.. Няўжо яны?

«Пагоня» ніколі не выказвала і не выказвае прэтэнзій на ісьціну ў апошняй інстанцыі. Мы заўсёды выходзім з таго, што ў любой зьяве не бывае ўсё толькі чорнае, ці толькі белае. Мы лічылі і лічым, што пры розных падыходах, розных трактоўках тых ці іншых фактаў альбо падзеяў найлепшае выйсьце - інтэлігентная, кампетэнтная ўзважаная дыскусія. На вялікі жаль, дыскусіі ў гэтым сэнсе ў нас з ваінствуючымі прафесарамі не атрымалася.

Працягваць дыялог па прынцыпу «Мы ім пра стрэмя, а яны нам пра бярэмя» ня мае сэнсу. Дый сорамна. За прафесараў.

# ЗАМЕСТ ПАДЗЯКІ ДУЛЯ З МАКАМ!

**Не сакрэт, што найбольш актыўны ўдзел на ўсялякіх выбарах, якія спазнала незалежная Беларусь за ўсю сваю кароткую гісторыю прымалі людзі сталага ўзросту, пеньсіянеры. Прыйшоўшыя, дзякуючы ў многім ім, да ўлады людзі ў знак удзячнасьці ,відаць, падсунулі пад нос пеньсіянерам вялікую хвігу.**

Сёньня большасьць ветэранаў працы апынулася фактычна за рысай беднасьці і вядзе паўжабрацкі вобраз жыцьця. Пасьля сумнавядомых антыільготных указаў прэзідэнта сітуацыя пагоршылася яшчэ больш. Аб гэтым яскрава сьведчаць лісты, дасланыя на адрас «Пагоні». Дзеля прыкладу мы друкуем толькі ўрыўкі з іх.



*«У Слоніме пазбавілі выплаты пенсіі ня толькі працуючых, але і не працуючых пеньсіянераў. Ліквідаваць «хлебную» надбаўку, у цэнтральнай раённай бальніцы малодшаму медперсаналу ўтрымалі 50 працэнтаў пеньсіі. Абяцалі вярнуць пасьля - але не вярнулі. На які разьліковы рахунак у швайцарскім банку пакладзены грошы абкрадзеных такім чынам пеньсіанераў. Чыя галава да гэтага дадумалася?*

*ГЕОРГІЙ МАСКАЎЧУК. г.Слонім»*

*«Я працавала 32 гады і атрымоўваю толькі 250 тысячаў рублёў, мой муж працаваў 28 гадоў - 216 тысячаў рублёў. У гэты час людзі, якія ўвогуле не працавалі, атрымоўваюць па 200 тысячаў. Да таго ж выплочваецца пеньсія несвоечасова. Замест 2-га чысла выплочваюць 15-га. А за якія грошы жыць усе гэтыя дні? Атрымоўваецца, што мы ўсё жыцьцё працаваплі дарэмна?*

*МАР'ЯНА ПОВАЛЬ. в. Грандзічы»*

Боль і крыўда гэтых і падобных ім людзей зразумелая - аддаўшы лепшыя гады свайго жыцьця працы, яны зарабілі па 8-10 тысячаў рублей на дзень. Вось табе і дастойная старасьць! І добры ўрок тым, хто пры рынкавым сацыялізме спадзяецца сваёй працай на дзяржаву забясьпечыць сябе будучае. Памер пеньсіі сёньня вызначае ня колькасьць прапрацаваных гадоў, ня плёнам працы пеньсіянераў, а шэрагам створаных чыноўнікамі лічбаў, якія часта прыводзяць у выніку да апісанай вышэй сітуацыі, калі людзі з 30-ым стажам маюць такую ж пеньсію, як і тыя, хто не працаваў увогуле.

Для таго, каб чалавеку налічылі пеньсію, спачатку вылічваюць яго індывідуальны кафіцыент. Робіцца гэта шляхам дзеленьня сярэдняга памеру зарплаты пеньсіянера на аналагічныя сярэднестатыстычныя паказчыкі па народнай гаспадарцы па стану 1993 год. Да прыкладу, вы атрымоўвалі 120 тысячаў пры сярэдняй зарплаце 100 тысячаў. Дзелім першую цыфру на другую і атрымліваем кафіцыент 1,2. Затым гэты кафіцыент памнажаецца на сумму сярэднямесячнага заработку па народнай гаспадарцы па стану на кожны месяц(з жніўня 1995 года гэтая лічба не зьмянялася і складала 876 з невялікі тысячаў). Атрыманая ў вынаку лічба ў 1 міліён 51 тысячу рублёў і ёсьць памер вашай пеньсіі. Аднак не спадзявайцеся яе атрымаць, бо тут у сілу ўступае славуты 56-ты артыкул нашага пеньсійнага закнадаўства. Згодна з ім, для разьліку пеньсіі атрыманая ў выніку вышэй прыведзеных матэматычных аперацый лічба не павінна перавышаць дзесяці мінімальных зарплат. Гэта азначае - ня больш 600 тысячаў на канец мінулага году. Такім чынам, з заробленага міліёна Вам застаецца толькі шостая яго частка. Але гэта яшчэ ня ўсе страты. Пры назначэньне пеньсіі цалкам улічваецца толькі заробак, які не перавышае 4-х кратнага памеру мінімалкі. З 600 тысячаў жалезна вашымі будуць толькі 240 тысячаў. Над астатнімі ж будуць праведзены яшчэ адныя хітрыя матэматычныя разьлікі. З кожных наступных 60 тысячаў вам застаюцца працэнты ад іх. З першых - 85 працэнтаў (51 тысяча), з другіх - 70 працэнтаў (42 тысячы), з трэціх 55 працэнтаў (28 тысячаў), з чацьвёртых - 40 працэнтаў (24 тысячы), з пятых - 25 працэнтаў (15 тысячаў), з апошняй шостай часткі - 15 працэнтаў (9 тысячаў).Атрымоўваецца,што з апошніх вашых 360 тысячаў застаецца толькі 169. Дадаем іх да 240 тысячаў і атрымоўваем 409 тысячаў.Гэта і ёсьць тая дастойная старасьць, якая засталася вам ад мільёну. Як патлумачылі нам у аддзеле сацыяльнага забесьпячэньня аблвыканкаму. 56-ты артыкул заканадаўства фактычна руйнуе ўсю папярэднюю шматгадовую працу людзей, ствараe тыповую «ураўнілаўку», у выніку якой пеньсіянеры, аддаўшыя працы 30 гадоў жыцьця маюць столькі ж , колькі тыя, хто не працаваў за ўсё жыцьцё ніводнага дня. Аднака гэтага артыкула дазволіла б значна павялічыць пеньсіі, але для гэтага спатрэбіліся б значныя сродкі. Таму, на думку сьпецыялістаў аблвыканкаму, спадзявацца на перагляд 56-га артыкула ў бліжайшы час падставаў няма. Як і на тое, што ў выніку пад'ёму мінімальнай зарплаты палепшыцца матэрыяльнае становішча пеньсіянераў - пэўную палёгку адчуюць толькі тыя, хто мае розныя ільготныя даплаты.

Не прыходзіцца чакаць пеньсіянерам пакуль і своечасовай выплаты пеньсій. Прадпрыемствы, якія адлічваюць у фонд сацыяльнай абароны грошы, з якіх выплочваецца пеньсія, сёньня самі ці стаяць «запушчаныя», ці блізкія да гэтай стадыі.

«Дык што, паміраць?» - справядліва спытаеце вы? Так, паміраць! Альбо выбіраць паміж **заслужанай** дастойнай старасьцю, ці бязвольным існаваньнем, якое жыцьцём назваць рука не падымецца.

**ВІТАЎТ РУДНІК.**

# АПОШНІ ПРЫЗЫЎ

**Ледзяны вецер не перашкодзіў у мінулую нядзелю сотням гарадзенцаў сабарцца на пляцы Шостай брыгады на Фолюшы. Тут прымалі прысягу нававбранцы апошняга прызыву. Апошняга, можа стацца, у прамым сэнсе!**

Вайскоўцы прыйшлі да высновы, што практыка былых прызыўных кампаній вясной і восеньню адстала ад жыцьця. Сёньня паўсюдна можна ўбачыць, як у чаканьні прызыву дапрызыўнікі бадяюцца бяз справы - хто возьме юнака на працу, калі яму праз некалькі месяцаў абуваць боты? Як сумна часам скончаецца такое чаканьне, вам могут расказаць у любым судзе, любым аддзяленьне міліцыі.



Таму ў хуткім часе ў войска будуць прызываць як толькі юнаку споўніцца 18 год, у любы месяц і дзень. Магчыма, і для войска так будзе лепш - армія будзе папаўняцца безперапынна.

Зараз тэрмін службы - паўтара года. Падобна, ён будзе скарочаны да года. Але - без адпускоў! Пры пераходзе на тэрытарыяльнае камплектаваньне, калі гарадзенец, дапрыкладу, служыць у Горадні і штотыдзень можа прыходзіць да маці, отпуск становіцца бессэнсоўным.

Армейскае начальства, напачатку асьцярожна глядзеўшае на службу па кантракту, абагульніла першы вопыт і прыйшло да высновы, што кантрактнік, які атрымоўвае зарплату, абыходзіцца таньней, чым "бясплатны" салдат тэрміновай службы! Няма сумневу, што колькасць кантрактнікаў будзе імкліва расьці. Беларускае войска на вачах становіцца прафесійным.

Можа, таму так шмат народу і прыйшло на Фолюш, што больш такіх масавых прыёмаў прысягі ня будзе? Тым лепш.

**Д.ЛАЎРЫНОВІЧ.**

# СУМЕЖЖА

## ДЗЕ ЛЯГЧЭЙ БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ?

**У гэтым годзе беларуская грамадзкасьць у Польшчы адзначае 40-годдзьдзе з з дня утварэньня ў Беластоку беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства.**

Сеньня БГКТ налічвае 30 суполак, якія аб'ядноўваюць каля 10 тысяч людзей. Большасьць з гэтых суполак знаходзіцца на тэрыторыі Беластоцкага ваяводзтва. За яго межамі дзейнічаюць 4 арганізацыі ў Варшаве і па адной у Аўгустове, Гданьску, Кашаліне, Ольштыне, а таксама тэрытарыяльная Рада беларускага дэмакратычнага аб'яднаньня з сядзібай у Беластоку.

На жаль, кола арганізаванага грамадзка-палітычнага жыцьця беларусаў у Польшчы звужаецца. Гэта добра відаць на прыкладзе становішча з вывучэньнем роднай беларускай мовы ў Польшчы. У 60-х гадах у педагагічным ліцэі ў Бельску-Падлямскім, завочных студыях у Беластоку: кафедры беларускай філалогіі і Варшаўскага ўніверсітэту вучылася больш 10 тысячаў вучняў. З 70-х гадоў колькасьць школаў і вучняў пачала зьмяншацца. У гэтым годзе ў 54-х школах беларускую мову вучылі толькі 3800 вучняў. У двух агульнаадукацыйных ліцэях з беларускай мовай навучаньня ў Бельску-Падляшскім імя Браніслава Тарашкевіча і ў Гайнаўцы вучыцца 700 навучэнцаў, а ў падставовых школах - 3100 вучняў. Штогод БГКТ праводзіць конкурсы тэатральных вакальных ансамбляў. Вялікай папулярнасьцю карыстаецца фестываль беларускай песні «Басовішча» у Гарадку. Гэтая імпрэза праводзіцца пры дапамозе беластоцкага ваяводзкага аддзела культуры, ваяводзкага дома культуры ды іншых арганізацый. Добра вядомыя ў Польшчы фальклорныя гурты з Курашова, Арэшкава, Чаромхі, Орлі, Навасадаў, Тыневічаў. Свой 35-гадовы юбілей адзначаў нядаўна беларускі хор «Васілёчкі».

Неад'емнай часткай жыцьця беларусаў у Польшчы зьяўляецца і газета «Ніва», якая таксама адзначае свой 40-гадовы юбілей. За гэтыя гады выйшла ў сьвет больш двух тысячаў нумароў гэтага выданьня. З першага нумару газету ўзначальваў Юрка Ваўкавыцкі, які нядаўна, аддаўшы працы 35 гадоў пайшоў на пеньсію. Сёньня «Ніву» рэдагуе Яўген Міранoвіч.

Адметнай зьявай польскай сучаснай літаратуры стаў беларускі літаратурны рух. З 1958 году штомесяц у «Ніве» зьяўляецца старонка «Белавежа», на якой друкуюцца лепшыя творы беларускіх паэтаў і празаікаў у Польшчы. За гэтыя сорак гадоў убачылі сьвет 35 кніжак, 28 беларускіх календароў, 18 літаратурных, 12 навуковых зборнікаў, выдадзеных беларускім Грамадзка-Культурным Таварыствам. 13 чэрвеня 1958 году беларуская мова загучала і на польскім радыё. З 1966 па 1972 год у Белавежы існаваў беларускі рэвалюцыйны музей імя Кастуся Каліноўскага. У хуткім часе будзе скончана будаўніцтва музея ў Гайнаўцы, які стане скарбніцай беларускай культуры ў Польшчы.

Сёньня беларусы ў суседняй краіне сталі раўнапраўнымі грамадзянамі ў грамадзка-культурным і палітычным жыцьці і па-ранейшаму за сталом першы тост выпіваюць за тое, што рука Сталіна, які праводзіў на мапе беларуска-польскую мяжу, пакінула іх на польскім баку. Яно і вядома - быць беларусам у Польшчы лягчэй, чым у Беларусі.

**ВІТАЎТ РУДНІК.**

## ШПІЁНАМАНІЯ Ў ПОЛЬШЧЫ

**Міністр унутраных спраў Польшчы Ежы Канечны перадаў ваеннай пракуратуры дадатковыя матэрыялы па справе абвінавачваньня прэм'ер-міністра Юзэфа Алексы ў сувязях з савецкай і расейскай разьведкай.**

Ваенны пракурор Анджэй Камарскі жадае атрымаць у свае рукі дакументы на агентаў ведамства па абароне дзяржавы - UOP (ужонд охроны паньства), якія «распрацоўвалі» Ю.Алексы. Ці будзе распачата сьледзтва - даведаемся ў канцы месяца.

Тым часам Ю.Алексы вярнуўся з кароткачасовага адпачынку і правёў паседжаньне ураду. Ён заявіў, што рэфармаваньня кабінету міністраў не чакаецца, і ён «верыць ў права, дэмакратычныя механізмы і праўду, якую ведае». Прэзідэнт А.Квасьнеўскі, які прысутнічаў на паседжаньні, адзначыў, што «для адстаўкі ўраду няма падставаў».

Аднак апазіцыя ў сейме і за яго межамі, у тым ліку «Салідарнасьць», у якой зноў зьявіўся Лех Валенса, патрабуюць адстаўкі Ю.Алексы і ўсяго ўраду, стварэньня кааліцыі.

Справай Ю.Алексы заняліся і сродкі інфармацыі. Як паведамляе тыднёвік «Wprost», калі Алексы вымушаны будзе пайсьці ў адстаўку, то разам з ім тое самае павінны зрабіць па меншай меры яшчэ 5 высокапастаўленых асоб, якія зьвязаны з расейскай агентурай.

Рэдакцыя тыднёвіка сьцьвярджае, што мае адпаведныя дакументы, але імёны пакуль не называе. Прэзідэнт А.Квасьнеўскі, які ў сераду адправіўся ў Брусэль, у штаб-кватэру НАТА, заявіў, што ў Польшчы пачалася шпіёнаманія, але люстрацыя высокіх прадстаўнікоў уладных структур патрэбная дзеля таго, каб высьветліць, хто меў, або мае сувязі з іншаземнымі структурамі, якія могуць зашкодзіць дзяржаве.

**Ю.Г.**

## ЗНОЎ СТРЭЛЫ НА МЯЖЫ

**Для паездак у Летуву існуе строгі візавы рэжым, але для тых, хто мае пуцёўкі ў Друскенікі санаторый «Беларусь» лічыцца, што ўведзеныя спрошчаныя правілы пераезду праз мяжу. Лічыцца...**

Вось і павезла група бацькоў сваіх дзяцей у Друскенікі. Пакуль даехалі, аформіліся-уладкаваліся, надыйшоў вечар. Таму пераначавалі ў санаторыі і зранку зьявіліся на аўтавакзал, дзе павінен быў знаходзіцца аўтобус на Горадню. А аўтобуса не было! Зламаўся, ці што? Пакуль бегалі, даведваліся, адыйшоў і цягнік! А сярод бацькоў былі ня толькі гарадзенцы, але жыхары Брэста, Жодзіна, Баранавічаў. Доўгі шлях, дома чакаюць, на працу трэба... Некаторыя ад'ехалі праз Вільню, а пяцёра жанчын вырашылі скінуцца на таксоўку, даехаць да мяжы, а адтуль дабрацца да Парэчча.

Літоўскія памежнікі сустрэлі вандроўцаў з усьмешкамі:"Пані вырашылі прагуляцца?" А даведаўшыся, што яны суправаджалі дзяцей у санаторый, нават ня сталі правяраць дакументы - паверылі на слова і пажадалі вясёлага шпацыру.

Нашыя перасеклі нейтральную зону і падыйшлі да беларускага шлагбаўму, ля якога не было ні душы, нікога не было і ў будцы ля шлагбаўму. Параіўшыся жанчыны ня сталі чакаць (бо мароз...) невядома каго і абмінуўшы шлагбаўм, пачалі рухацца далей. І тут... Прагучалі стрэлы! І строгі крык:"Стаяць!" Стала страшна. Вядома, усе спыніліся -падстрэляць яшчэ, як той паветраны шар...

Падбег «страж границы» і ўчшаў крык: «Вы что, не видели, что у нас пересменка? Не могли подождать?»

А адкуль ім бачыць? Хоць бы якую запіску да шлагбаўму прышпілілі, ці што... І чаму яны павінны чакаць на марозе?

Затым памежнікі нашым грамадзянкам учынілі (па іх словах) форменны допрас з прадузятасьцю і дакладнай праверкай дакумантаў. Пасьля адпусьцілі.

Жанчыны рухаліся да Парэчча пешкі, 7 кіламетраў і ўсё лесам. Абганяючы іх, у Горадню праз Парэчча ад'ехаў напаўпусты аўтобус, які прывозіў зьмену памежнікаў. Падвезьці жанчын, калі не да Горадні, так хаця б да Парэчча і не падумалі.

Што мы тут бачым? Строгае захаваньне правіл і парадку? А вы ўяўляеце сабе, што з-за нейкай такой дробязі стрэлы загрукаталі за вашай сьпіной. Уявілі? Зараз вам зразумела дзікасьць нашых парадкаў?

**А.ЛЕВАНОВІЧ.**

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў ЛЕТУВЕ

У Эйшышках у сярэдняй школе N 2 працуе факультатыў беларускай мовы, які наведваюць каля 20 дзяцей.

А ў пачатку сьнежня і ў Салечніцкай СШ N 1 адбылася першая сустрэча тых, хто жадае вывучаць беларускую мову. Такіх ахвотнікаў аказалася 15. Заняткі раз на тыдзень праводзіць настаўніца гэтай школы Яўгенія Рогань. Вывучаць пачалі ня толькі мову, але і гісторыю Беларусі, літаратуру, прыроду і звычаі беларусаў.

## КАЛІ ЛАСКА Ў ГОСЬЦІ

На Салечніцкай заставе памежнай паліцыі Летувы з 27 сьнежня пачалі выдаваць дазволы на пераход дзяржаўнай мяжы з Беларусьсю. Такі дазвол могуць атрымаць толькі жыхары памежнай зоны ў Салечніцкім раёне, каб наведаць родных у памежнай зоне Беларусі. Каб атрымаць дазвол на паўгода, трэба прадаставіць даведку з месца жыхарства родзічаў у Беларусі, а таксама свой пашпарт.

**ЯРАСЛАЎ ГРЫНЬКЕВІЧ**



## Васіль Быкаў узнагароджаны ўкраінскім медалём

**13 студзеня на Сойме БНФ лідар Фронту Зянон Пазьняк па даручэньні кіраўніцтва Украінскага Руху ўручыў медаль "Удзельнік Другой Сусьветнай Вайны" народнаму пісьменьніку Беларусі Васілю Быкаву.**

Аўтар "Знаку бяды", "Сотнікава", "Альпійскай балады" адзначаны гэтай узнагародай зьездам Руху з нагоды 50-ых угодкаў перамогі над фашысцкай Германіяй

**Станіслаў Суднік.**

## "КРОЎ АХВЯР НА КОЖНЫМ З НАС"

15 студзеня вядомы расейскі абаронца правоў чалавека, дэпутат Дзяржаўнай Думы Расеі Сяргей Кавалёў распаўсюдзіў заяву з нагоды штурму расейскімі войскамі станіцы Першамайская. "Кроў непазьбежных ахвяр будзе ня толькі на Радуеве, але і на Ельцыне, і на кожнам з нас." Заява дасланая і Прэзідэнту Расеі. Аднак спадзяваньняў на тое, што Ельцын спыніць бойню на Каўказе, на думку Кавалёва, няма.

## "НЕ ЗВАНІ ЁЙ, НЕ ЗВАНІ"

Лідару Дэмакратычнага Саюзу Расеі (ДСР). Валерыі Навадворскай 15 студзеня адключылі тэлефон. ДРС лічыць, што тэлефон адключылі, каб блакаваць паступленьне ў СМІ праўдзівай інфармацыі пра падзеі ў Чачні і сяле Першамайскім.

**"Э.-Х."**

## ПАЎТАРА СТАГОДДЗЯ ГЕНАЦЫДУ

Расея пачала захоп Каўказу ў канцы XVIII стагоддзя. У той вайне ўдзельнічалі і іншыя землякі. Ніжэй прыводзім «Поўны паслужны сьпіс маёра, належнага да Армейскай пяхоты Андрэя Іосіфавіча Сьнітка. З дваран Віленскай гебурніі». Падзеі кранаюцца 1847-80 гадоў. «Кавалер ордэнаў сьв.Ганны 3-й ступені і Сьвятога Станіслава той жа ступені, медаля бронзавага за вайну 1853-56 г.г. на Андрэеўскай стужцы, срэбнага, за пакарэньне Чачні і Дагестана, крыжа "За заслугі на Каўказе" тэнабронзавага медаля на стужцы колераў Георгіеўскага і Андрэеўскага ў памяць Турэцкай вайны 1877 і 1878 гадоў».

Вайсковую службу Сьнітка прайшоў ад шэраговага да штаб-афіцэра: «У 1848 годзе, з 24 траўня па 30 верасьня ўдзельнічаў у экспедыцыі на Вялікай і Малой Чачні пад начальствам генерал-лейтэнатна Фрайтага пры пабудове Аргунскай вежы Урус-Мартанскага ўмацаваньня.

У 1850 годзе з 5 студзеня па 24 жніўня ў Лятучым аддзеле пад начальствам палкоўніка Сляпцова для абароны Гальшавусы і Карабулакаў ад спробаў чачэнскіх набегаў.

У 1851 годзе з 17 сакавіка па 31 сьнежня пры насаджэньні новых станіц.

У 1857 годзе былі наступныя справы і перастрэлкі. 16 студзеня пры руху на рэчку Русалку на Чахун-Баскір Высатан. 17,18,19 - на аул Ачшапатой. 24 студзеня пры разбурэньні аула Магагіна. 22 кастрычніка пры вынішчэньні горскіх аулаў на правым беразе рэчкі Мартана, 27 кастрычніка пры вынішчэньні аулаў па рэчцы Энгеліцы, 29 кастрычніка пры адбіцьці ў непрыяцеля жывёлы ля аула Вялікі Чачэн. 29 лістапада пры вынішчэньні аула Зандан. 7 сьнежня пры заняцьці і вынішчэньні аулаў на рэчцы Хулхілаў ва ўмацаваньні Хасы Ірзаў. У 1858 годзе... 3 лютага пры заняцьці і спаленьні аула Чачні-Ірзаў, 5 лютага пры заняцьці аулаў Дугаціна, Ізмаіла-Юрта і Урус-Керты. 5 лютага пры ачышчэньні і спаленьні аула Урус-Керты. 29 сакавіка пры заняцьці і спаленьні аулаў Зазаргана, Вашта-Дарая і Шары-Хатая... 31 сакавіка рэкагнасцыроўка плыні Чанты-Аргула, пры гэтым спалены два аулы Чышкі...»

**Паводле Часлава ДЗЕРАЧЫНСКАГА.**

**P.S.** Сучасны паслужны сьпіс якога-небудзь маёра-беларуса са складу Расейскага войска ў Чачні амаль не адрозьніваецца ад гэтага. Розьніца відаць толькі ў тым, што сёньня яшчэ ня страчана надзея на тое, што падобных «заслугі» лягуць у аснову ня сьпісаў для ўзнагароджаньня, а крымінальнай справы. Справы супраць аўтараў і выканаўцаў фашысцкага генацыду, які ў адносінах да чачэнцаў з большым, ці меншым імпэтам працягваецца больш, чым паўтара стагоддзя.





## АКТУАЛІІ

# ПАСТАЎЦЕ КЕЛІХІ, СПАДАРЫ!

9 студзеня 1996 году закончыліся паўнамоцтвы Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня. Нечаканa трапіўшы ў апошні год існаваньня пад агонь беззаконьня, маральнага трэціраваньня і праваvога самадурства з боку прэзідэнта і яго саўдзельнікаў, гэты Вярхоўны Савет увайшоў у ролю нявіннай ахвяры ўзурпацыі ўлады. У такіх умовах шмат каму з былой агрэсіўна-наменклатурнай большасьці 12-га Вярхоўнага Савету хочацца перагаварыць аб значнасьці свайго існаваньня, аб тым, як шмат яны «зрабілі», пра свой уклад у гісторыю і г.д.

Сапраўды, 12-ты Вярхоўны Савет увайшоў у гісторыю Беларусі, толькі не агрэсіўна-коснай большасьцю ў 320 галасоў, а дзейнасьцю нешматлікай Апазіцыі Беларускага Народнага Фронту, якая, абапіраючыся на грамадзкі рух, зрабіла немагчымае, неверагодна больш, чым увогуле можна было ў тых умовах зрабіць 25-30 дэпутатам -дамаглася незалежнасьці Беларусі, стварэньня інстытутаў незалежнай дзяржавы, адрадзіла і ўзаконіла нацыянальныя сімвалы краіны, заканадаўча вярнула хрысьціянскія сьвяты і храмы, беларускіх салдат з чужых войнаў і «гарачых кропак», спыніла дзейнасьць КПБ-КПСС, адкрыла праўду пра Чарнобыль.

У 12-м Вярхоўным Савеце, аморфным, канфармісцкім, наменклатурна-камуністычным, Апазіцыя Беларускага Народнага Фронту была генератарам дзяржаўных ідэяў і заканадаўчых прапановаў, выступала энэргічным рухавіком у правядзеньні іх у жыцьцё. Дэпутаты Апазіцыі распрацавалі, напісалі і прапанавалі дзесяткі праектаў законаў і сотні іншых заканадаўчых дакумантаў, распрацавалі канцэпцыю эканамічнага разьвіцьця Беларусі, праграмы рынкавых рэформаў, пераўтварэньня сельскай гаспадаркі, рэформы мясцовага самакіраваньня, адукацыйнай, фінансава-крэдытнай сферы, стратэгічныя падыходы ў міжнароднай палітыцы (нэўтралітэт, няўдзел у ваенных пагадненьнях, саюзах і блоках, паглыбленьне і пашырэньне сувязяў з Эўропай і г.д.).

Апазіцыя, нягледзячы на шалёную антыфронтаўскую прапаганду і дзікія паводзіны наменклатурнай большасьці, энэргічна працавала і актыўна стварала вольную, дэмакратычную, незалежную Беларусь, старалася абараніць беларускі народ ад інфляцыі, карупцыі, «прыхватызацыі».

Што ж рабіла ў гэты час агрэсіўна-наменклатурная большасьць? Стварала? Ці можа ажыцьцяўляла рынкавыя рэформы, народную прыватызацыю? Будавала незалежную Беларусь, ці, можа, заканадаўча падтрымлівала беларускую культуру, ці фінансы?

Яна разбурала і тармазіла ўсё здаровае, што зыходзіла ад Апазіцыі БНФ. Вось асноўны занятак дэпутацкай большасьці ў 12-м Вярхоўным Савеце.

Успомнім дэпутацкую групу «Беларусь» з каардынатарам Генадзем Казловым (дзе, дарэчы, цяпер гэты жвавы «работнік ворганаў?), ветэранскую фракцыю «Саюз», цьвёрдых камуністаў. Гэта яны ўцягнулі Беларусь у так званую «калектыўную бясьпеку» з Расеяй (чакайце, ягадкі яшчэ не пасьпелі). Гэта яны 29 кастрычніка 1992 г., нахабна парушыўшы Канстытуцыю і закон, забаранілі і растапталі рашэньне аб рэферэндуме пра новыя выбары парламанту, наплюваўшы на ўсё, у тым ліку і на 440 тысячаў подпісаў выбаршчыкаў-грамадзян Беларусі.

Гэта яны стварылі заканадаўчыя і выканаўчыя ўмовы для інфляцыі, карупцыі, прыхватызацыі, раскраданьня дзяржаўнай маёмасьці, мафіёзнай залежнасьці ад Расеі, сістэмнай і структурна-эканамічнай дэградацыі Беларусі. Гэта яны безагляднa падтрымлівалі кампрадорскую дзейнасьць кабінэта Кебіча і пакрывалі велізарныя страты, нанесеныя яго дзейнасьцю нашай краіне.

Гэта яны амаль гвалтам увялі амерыканскую прэзідэнцкую сістэму на Беларусі і падрыхтавалі ўвесь гэты ганебны абсурд, у які трапіла наша краіна. Гэтыя людзі ніколі не шанавалі законаў, не паважалі здаровага сэнсу і не любілі Беларусь. Дык чаму ж вам цяпер не па фасоне Лукашэнка, спадары? Ён жа тыповы прадстаўнік вашай большасьці, чалавек з каманды Кебіча, дух ад духу вашага, мяса ад мяса. Ён жа дзейнічае гэтаксама, як увесь час дзейнічалі вы!

«І што мы нарабілі, што нарабілі, каго абралі, што нарабілі?» - стукае сябе па галаве, спаткаўшы мяне, адзін другі, трэці, пяты наменклатурны дэпутат. Ня стукайце сябе па галовах, шаноўныя спадары бо нічога ня выстукаеце. Вы ведалі, што рабілі і ні ў чым не пакаяліся.

Гэта вы, спадары наменклатурна-ветэранская большасьць, падтрымалі прэзідэнцкі путч 12 красавіка 1995 году, калі ў будынак Вярхоўнага Савету былі ўведзеныя войскі, і батальён аўтаматчыкаў у масках у Зале Сесіяў парламанту расправіўся з 19 дэпутатамі Апазіцыі. Падзея ўскалыхнула, уразіла ўсю Эўропу, толькі ня вас. Вы былі задаволеныя, што гэтак дзіка па-бандыцку абышліся з вашымі парламанцкімі апанентамі. Я памятаю вашы зьзяючыя радасныя твары, ліхаманкавыя ўсьмешкі і выкрыкі: «Правильно! Хорошо! Мало дали!»

Узбуджаныя пахам крыві і бразганьнем зброі, вы ў гэты ж дзень, парушыўшы Канстытуцыю, закон, працэдуру, рэгламент, прагаласавалі ўсе непрынятыя раней пытаньні лукашэнкаўскага рэферэндуму і ганебна іх прынялі. У гэты ж дзень вы насуперак патрабаваньням Апазіцыі, якая пакінула Сесію, помсьцячы элементарнаму здароваму сэнсу, бяздумна ратыфікавалі самазабойчыя для Беларусі мытнае і транзітнае пагадненьні з Расеяй, падпісаныя Лукашэнкам. Страты, якія вы разам з прэзідэнтам нанесьлі гэтым беларускай дзяржаве, складаюць каля трох мільярдаў долараў у год (гэта сума, большая за ўвесь наш гадавы нацыянальны бюджэт). Дзеяньні Лукашэнкі (нанясеньне буйной страты дзяржаве і дзяржаўным інтарэсам) падпадаюць пад артыкулы крымінальнага кодэксу. Але ж вы ратыфікавалі іх, спадары партнаменклатура, вы адобрылі гэтыя дзеяньні і паклапаціліся, каб галасаваньне не было паіменным!

12 красавіка вы думалі, што разам з Лукашэнкам растапталі Дэпутацкую Апазіцыю БНФ. Вы растапталі сябе, спадары.

12 красавіка ўсе ўбачылі, што ніякія вы не «парламантары» і што ніколі вы імі не былі. 12 красавіка, адобрыўшы збройнае насільле над Апазіцыяй, вы паставілі крыж на ўсіх вашых парламанцкіх ілюзіях, на ўсёй вашай квазіпарламанцкай дзейнасьці, на існаваньні вас як парламанту. І толькі палітычна разумная дзяржаўніцкая пастава дэпутатаў Апазіцыі БНФ, якія, калі ўзьнік крызіс дачыненьняў Вярхоўнага Савету з прэзідэнтам, думаючы пра Беларусь, пра пагрозу дыктатуры, вярнуліся і падтрымалі вас (вас, улюлюкаўшых, каб нас пазабівалі!) - толькі пастава Апазіцыі ўтрымала гэты Вярхоўны Савет ад заўчаснага і поўнага краху. Бо дастаткова было толькі нязначнага штуршка знутры, каб гэты Вярхоўны Савет паваліўся. А ў нас хапала сілы, каб зрабіць такі штуршок.

Спыніў існаваньне 12-ы Вярхоўны Савет. Падсумоўваючы дзейнасьць, не кажыце тосты, шаноўная большасьць, за свае посьпехі - яны ўяўныя. І за свае справы не кажыце - яны дрэнныя. Вы страцілі, ганебна змарнавалі гістарычны час. Усё, што мы маем цяпер у палітыцы, і эканоміцы, уключаючы і прэзідэнта Лукашэнку, увесь гэты развал, сорам, адсталасьць - усё гэта ў значай ступені справа вашых рук, вашай палітычнай дзейнасьці, спадары партгасактыўная большасьць 12-га Вярхоўнага Савету, дзейнасьці, якая атрымала адпаведны працяг у справах вашага прэзідэнта.

Я бачу, што для многіх гістарычны ўрок з прэзідэнцтвам не прайшоў дарма. Нешта зразумета, нешта дадумана, нешта перадумана. Можа я кагосьці навет незнарок пакрыўдзіў? Выбачайце. Толькі, калі б паўтарылася ўсё спачатку, я ўпэўнены, вынік быў бы такі ж самы. Чаму? Ды таму, што каб не нарабіць таго, што нарабілі дэпутаты большасьці 12-га Вярхоўнага Савету, неабходна любіць Беларусь і служыць нацыянальнай ідэі. Ідэі самай неабходнай, самай канструктыўнай, самай дэмакратычнай, гуманнай і кансалідуючай, праверанай часам і гісторыяй Эўропы. Няма нацыі без нацыянальнай ідэі; няма і дзяржавы. Без усьведамленьня гэтых дзьвюх гуманістычных каштоўнасьцяў -нацыянальнай ідэі і любові да краіны - лепш не ісьці ў палітыку. Вы пайшлі і ператварылі яе (палітыку) у вайну групавых інтарэсаў. У выніку прайграла нацыя. Не Апазіцыя, спадары, не Народны Фронт, а Нацыя. І вы ў тым ліку.

Зрэшты, нацыя будзе жыць. Шлях з егіпецкай нявolі да Бацькаўшчыны ляжыць праз пустыню, спадары. Ніхто яе не міне. Усё пытаньне ў тым, колькі ісьці. Вы ўжо падоўжылі гэты шлях на пяць год. Пастаўце келіхі, спадары былыя наменклатурныя дэпутаты. І калі вы нічога не зразумелі, вяртайцеся назад у Егіпет, толькі самі, можа вас там чакаюць. А мы застанемся ў пустыні з сваім народам і пойдзем з ім, колькі б не прыйшлося трываць.

**Зянон ПАЗЬНЯК,**
**Старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне».**

# ГЕРМАНІЯ 30-Х. НОВЫ НЯМЕЦКІ ПАРАДАК

**...Гісторыя Германіі - гэта зьлепак з гісторыі, у некай ступені, Беларусі на адпаведных этапах. У свой час Германія была паднята з руін, дзякуючы вельмі жорсткай уладзе. І ня ўсё толькі кепскае было зьвязана ў Германіі і з вядомым Адольфам Гітлерам.**

**Нямецкі парадак фарміраваўся стагоддзямі. Пры Гітлеры гэтае фарміраваньне дасягнула найвышэйшага пункту.**

**Гэта тое, што адпавядае нашаму разуменьню прэзідэнцкай рэспублікі і ролі ў ёй прэзідэнта.**

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

Прыведзеныя вышэй словы Прэзідэнта Беларусі аб Германіі, якая страціла ў выніку гэтай жорсткай улады Гітлера кожнага трэцяга свайго жыхара, азадачылі ўвесь Сьвет. Шматлікія сродкі масавай інфармацыі выказаліся з гэтай нагоды.

Мне не хацелася б каментаваць гэтыя выказваньні, а глянуць з пункту гледжаньня гісторыка на Германію 30-х гадоў і асабліва пагледзець на ролю Гітлера ў тых заслугах, якія яму прыпісвае Лукашэнка.

Так, пасьля Першай сусьветнай вайны Германія ляжала ў руінах. Хто і як падняў яе з гэтых руінаў? Германія прайграла вайну, але яна не была разгромлена. Патэнцыял германскай нацыі ня зьнік разам з кайзерамі. Інтэлектуальны патэнцыял Германія захавала. На краіну была накладзена жорсткая кантрыбуцыя, яна была пазбаўлена флоту, войска. Невялікі рэйхсвэр быў здатны толькі для барацьбы са страйкамі працоўных. Але як толькі перасталі рваца снарады і ўдалося прыдушыць мясцовых бальшавікоў, пачалося адраджэньне германскай эканомікі. Ужо ў 1923 годзе была стабілізавана нямецкая марка. У 1924 годзе быў прыняты новы план рэгуляваньня рэпарацый, так званы план Даўэрса, які значна палегчыў доступ замежнага капіталу ў Германію. Пачала расьці канцэнтрацыя вытворчасьці. Ва ўмовах аслабленьня большасьці сярэдніх і дробных кампаній, некаторым мацнейшым удалося падмяць іх пад сябе і манапалізаваць вытворчасьць. Зьяўляюцца такія гіганты, як «І.Г.Фарбэніндустры», «Стальны трэст» і інш. Германія здолела захаваць усе кадры сваіх Узброеных Сілаў. Ёй забаронена было мець Генеральны штаб. Але ён быў, толькі дзейнічаў пад іншай шыльдай. Ёй абмежавалі колькасьць рэйхсвэру. У гэтым рэйхсвэры генералы хадзілі ў пагонах маёраў, палкоўнікі - у пагонах капітанаў і оберлейтэнантаў, капітаны і лейтэнанты - у пагонах капралаў і навет проста як цывільныя службоўцы, але атрымлівалі зарплату адпаведна сваёй сапраўднай годнасьці, і рыхтаваліся выконваць абавязкі таксама адпаведна. Тут праходзілі школу баявога майстэрства будучыя гітлераўскія фельдмаршалы. Ад напалеонаўскіх маршалаў, геніяльных самавучак з народу, гітлераўскія палкаводцы адрозьніваліся шматгадовым і прафесійным вышкаленьнем.

У 1928 годзе да ўлады ў Германіі прыйшоў кааліцыйны ўрад на чале з сацыялдэмакратам Мюлерам. У 1930 годзе ўрад Мюлера дабіўся новага плана рэпарацый, плана Юнга. Цяжар кантрыбуцыі быў зьменшаны да мінімуму. Пачаўся рост вайскова-эканамічнага патэнцыялу. Быў павялічаны рэйхсвэр. Быў выпушчаны першы бранявосец «А». Да 1930 году Германія практычна поўнасьцю ліквідавала наступствы паразы ў Першай сусьветнай вайне. Але ў 1929 годзе ўвесь Заходні Сьвет трапіў пад прэс Сусьветнага эканамічнага крызісу. Не мінуў крызіс і Германію, якая ўжо была вельмі цесна завязана на эканоміку заходніх краін. У 1932 годзе спад вытворчасьці у параўнаньні да 1929 году склаў 40%, беспрацоўе складала 45%. Але такі стан быў пасўюдна. У гэтых умовах і актывізаваліся фашысты, субсідаваныя манапалістамі Тысcенам і Кірдорфам.

Вясной 1930 году ўрад узначаліў Г.Брунінг, лідар партыі «Цэнтра». Ён дабіваўся абмежаваньня правоў працоўных, каб зьнішчыць парламентарызм і ўвесьці прэзідэнцкае кіраваньне на падставе 48-га артыкула Канстытуцыі. Урад Брунінга выдаў шэраг надзвычайных дэкрэтаў: неаднаразовае скарачэньне расходаў на сацыяльныя патрэбы, паніжэньне зарплаты, павялічэньне падаткаў. Урад аказваў падтрымку манаполіям і значна пашырыў дзяржаўны сектар у прамысловасьці і банкаўскай справе. (Напэўна, гэта першы этап падабенства гісторыі Беларусі і Германіі, пра які казаў Аляксандр Рыгоравіч).

На выбарах у рэйхстаг 1930 году фашысты набралі 6400 тысяч галасоў - у 8 разоў болей, чым у 1928 годзе. На прэзідэнцкіх выбарах 1932 году гітлераўцы набралі больш 13 мільёнаў галасоў, але прэзідэнтам застаўся Гіндэнбург. У 1932 годзе Гіндэнбург замяніў кабінет на больш рэакцыйны ўрад Ф. фон Папена. Час кіраваньня фон Папена супаў з пачаткам аздараўленьня эканомікі. Ідэю выхаду з крызісу рэалізавалі эканамісты шляхам пачатку будаўніцтва аўтастрадаў. Гэтае будаўніцтва было імпульсам да развіцьця ўсёй эканомікі. Механізм тут просты. Пачатак будаўніцтва выклікае патрэбу ў матэрыялах - запрацавалі кар'еры, бетонныя, асфальтавыя заводы. Патрэбныя машыны - запрацавалі аўтамабільныя, трактарныя заводы. Патрэбна жыльлё для рабочых - запрацавала будаўнічая прамысловасьць. Рабочыя пачалі атрымліваць зарплату - запрацавала лёгкая, харчовая прамысловасьць, сьфера абслугоўваньня, сельская гаспадарка. Запрацавала уся прамысловасьць! Манапалісты адчулі вялікія грошы і ім стаў патрэбен чалавек, які гэтыя грошы забясьпечыў бы. Па патрабаваньню манаполій 30 студзеня Гіндэнбург прызначае рэйхсканцлерам Гітлера. Такім чынам, Гітлер ніколі не быў ідэолагам эканамічнага ўздыму. Яго выкарысталі ў якасьці каталізатара працэсу, які ўжо пайшоў.

27 лютага 1933 году фашысты падпалілі рэйхстаг. Камуністычная партыя была разгромлена і загнана ў глыбокае падполье. Каля паловы ад 300 тысяч камуністаў аказаліся ў канцэнтрацыйных лагерах. Скарыстаўшыся пазбаўленьнем камуністаў дэпутацкіх мандатаў, рэйхстаг надаў Гітлеру 23 сакавіка надзвычайныя паўнамоцтвы. У траўні 1933 году былі разагнаныя прафсаюзы. У чэрвені распусьціліся, ці былі распушчаны ўсе партыі акрамя нацыскай. (Гэты перыяд Аляксандр Рыгоравіч, напэўна, уважае за другі этап, толькі да партый у нас яшчэ справа не дайшла, але дойдзе, мне падаецца).

Далей пачынаецца дзейнасьць Гітлера на карысьць нямецкіх і сусьветных манаполій. Па ўзроўню разьвіцьця дзяржаўна-манапалістычнага капіталізму Германія выходзіць на першае месца ў Сьвеце.

У 1934 годзе прымаецца «Закон аб арганічнай пабудове германскай эканомікі», «Закон аб парадку нацыянальнай працы».

У 1935 годзе выдаецца дэкрэт аб прымусовай працоўнай павіннасьці для юнакоў. У 1938 годзе гэты дэкрэт распаўсюджваецца на ўсё дарослае насельніцтва.

Эканоміка атрымлівае аднабокі мілітарысцкі кірунак. Узьнікае 300 буйных авіяцыйных, аўтамабільных, танкавых і інш. заводаў. Буйнейшыя з іх «І.Г.Фарбэніндустры», «Стальны трэст», карпарацыі Крупа, Манэсмана, Хёта, Клёкнера, Ханіэля, Фліна. Банкаўская справа канцэнтруецца ў трох буйных банках: «Дойчэ-банк», «Дрэзднэр-банк» і «Камерцбанк».

У гэты час бачачы магчымасьць зарабіць на мілітарызацыі нямецкай эканомікі, вялізарную падтрымку Германіі аказваюць амерыканскія кампаніі «Джэнерал-Мотарс», «Форд», «Джэнерал-электрык», «Дзюпон дэ Немур», «Стандарт оф Нью-Джэрсі». Амерыканскаму капіталу належаць больш 80 буйных прадпрыемстваў.

У 1933 -м Гітлер забараняе драбніць сельскія гаспадаркі.

Манаполіі, атрымаўшы сваё, не замінаюць Гітлеру праводзіць расавую палітыку. У 1933 годзе ўзьнікаюць канцлагеры, гестапа. адбываецца генацыд супраць трох мільёнаў яўрэяў. У 1934 годзе Гітлер аб'ядноўвае пасты прэзідэнта і рэйхсканцлера (гэта, напэўна, нас хутка чакае).

Ідзе нарошчваньне вайсковай машыны. У 1932 годзе ў Германіі было 10 дывізій, у 1936 - 40, у 1938 - 51 дывізія. На аснове канцлагераў ствараліся прадпрыемствы СС з дармовай рабочай сілай, ішло абагачэньне фашысцкай вярхушкі.

Такім чынам атрымліваецца, што заслугі Гітлера ў пад'ёме эканомікі Германіі мінімальныя. Ён толькі гарантаваў свабоду манаполій. (Тут Аляксандр Рыгоравіч на фюрэра зусім не падобны. Ён лезе ўсім кіраваць сам, а якраз гэтага рабіць і ня трэба).

Злачынствы Гітлера непамерныя. Яны перакрэсьлілі б усё добрае, каб яно навет і было. А калі добрага з яго боку нічога не было, то ўміляцца такім чалавекам зусім не выпадае.

**Станіслаў СУДНІК.**



# ВЕДАЙ НАШЫХ!

**Гарадзенскія барцы-класікі на мінулым тыдні пацьвердзілі сваё высокае рэнамэ. Яны перамаглі на чэмпіянаце краіны ў камандным заліку і заваявалі чатыры залатыя медалі - у асабістым.**

Гэта азначае, што ў сакавіку на чэмпіянаце Эўропы,дзе таксама будуць разыгрывацца і алімпійскія пуцёўкі, амаль палова беларускай зборнай будзе мець гарадзенскую прапіску.

Так,у катэгорыі да 48 кілаграмаў, яшчэ раней месца ў камандзе зарэзэрваваў Аляксандр Паўлаў, які на гэты раз змагаўся ў катэгорыі да 52 кілаграмаў, дзе заняў другое месца. У яго адсутнасьць мацнейшым у найлягчэйшай вагавай катэгорыі стаў Уладзімір Уласаў. Золата чэмпіянату і месца ў зборнай заваявалі таксама Эдуард Аплевіч(68 кг), Валерый Цыленць (82 кг) ды Аляксандр Сідарэнка (90 кг).

На жаль толькі трэцяе месца заняў славуты Анатоль Федарэнка. Ён саступіў Сяргею Ліштвану з Менску. Адной алімпійскай надзеяй у Горадні стала менш.

Акрамя Паўлава, Аплевіча, Цыленця ды Сідарэнкі гонар Горадні ў Будапешце будзе адстойваць і Р.Нафталіеў. На чэмпіянаце ён прадстаўляў Менскую вобласьць і перамогу ў вагавай катэгорыі да 57 кг. У бліжэйшы час будзе аформлена яго гарадзенская прапіска.

Увогуле ж чэмпіянат паказаў, што сёньня Горадня зьяўляецца вядучым цэнтрам грэка-рымскай барацьбы ў краіне. Пасьля перамогі гарадзенцаў у Кубку Беларусі, знайшліся скептыкі, якія сцьвярджалі, што сапернікі на тых спаборніцтвах выступалі не ў мацнейшых складах і ганарыцца той перамогай няма чаго. Цікава, што яны скажуць пасьля таго, як у кампаніі мацнейшых атлетаў дванаццаць гарадзенцаў узышлі на п'едэстал гонару чэмпіянату?

**ВІТАЎТ РУДНІК.**

# АЛЬМАНАХ «КРУТЫХ» ДЖЭНТЛЬМЭНАЎ

**Гэтая кніга звалілася на аматараў айчыннага прыгожага пісьменства, як сьнег на галаву. Зьдзівіліся ня толькі пераборлівыя чытачы ды літаратары, але й самі бацькі-стваральнікі літаратурна-мастацкага альманаха «КАЛОСЬСЕ». Кампутарны набор і нэаакадэмічная вёрстка, мелаваная вокладка, фінская папера, плюс «крутыя» тэксты найбольш гучных на сёньняшні дзень літаратараў гарантуюць выданьню посьпех.**




Усе мастацкія тэксты ад паэзіі да прозы правакуюць альбо наркатызуюць чытача водарам рэанімаванага дэкадансу. На ім грунтуецца ўсё: ад нэасімвалісцкіх вершаў Хведара Ніцкі да медытацыйных верлібраў Едруся Мазько і першай кнігі рамана Юрыя Гуменюка «Апосталы нірваны». У рамане дзіўным чынам пераплятаюцца трызьненьні й успаміны, самагубствы і ўяўная муміфікацыя трупаў, рэлігійны экстаз і палавыя акты, а вытанчанае мастацтва супрацьпастаўляецца жорсткай рэчаіснасьці. Містыка-эратычную тэматыку з дэтэктыўным прысмакам працягвае апавяданьне Сяргея Мінскевіча «Бэзавая фея». Шакіруе сваім блюзьнерствам і цынізмам п'еса Ігара Сідарука «Крывая імша», дзе акторы проста са сцэны з аўтаматаў расстрэльваюць гледачоў у зале. Усе гэтыя глыбока метафарычныя творы - гратэскавае адлюстраваньне сёньняшніх жыцьцёвых рэалій, калі страчаны ранейшыя духоўныя каштоўнасьці і арыентыры.

Дакументальны жанр прадстаўлены ў «КАЛОСЬСІ» грунтоўным нарысам Вінцэся Мудрова «Невядомая Альбанія». Ці не ўпершыню на Беларусі, дый яшчэ ў незалежным выданьні, зьявілася цікавае дасьледаваньне пра колішні «востраў камунізму» - экзатычную Альбанію.

Захапляюць сваёй бязьлітаснай шчырасьцю аўтабіяграфічныя ўспаміны Славаміра Адамовіча «З жыцьця грамадзяніна імперыі». Дынамічны аповяд пра паэзію і каханьне на тле савецкай рэчаіснасьці, пра тусоўкі «Талакі» і «Тутэйшых», пра пільны нагляд і правакацыі КДБ пераплецены аўтарскімі разважаньнямі й дзёньнікавымі запісамі.

Разьдзел крытыкі ў «КАЛОСЬСІ» складаюць артыкул Алеся Аркуша «Беларусь - апошні фарпост эўрапейскага мадэрнізму», дзьве рэцэнзіі ў рубрыцы «EX LIBRIS» і рэфлексіі Сяргея Шыдлоўскага пад назвай «Эпоха маніхвэстаў».

Адметна й тое, што «крутыя» джэнтльмэны з Таварыства Вольных Літаратараў не рабілі гучных дэкларацый хатняе вытворчасьці, а, падтрымліваючы традыцыю «мастацтва дзеля мастацтва», надрукавалі маніфэст Станіслава Пшыбышэўскага «Confiteor»(1899 г.) у перакладзе Алены Шаціллы. Хіба страцілі сёньня актуальнасьць словы мэтра польскага мадэрнізму, што « мастак - не слуга й не правадыр, ён не належыць ні народу, ні сьвету, ня служыць ніякай ідэі, ніякаму грамадству»?

Пытаньне спрэчнае, але падобна на тое, што аўтары «КАЛОСЬСЯ» прытрымліваюцца гэтага маніфэсту.

**Ігар ГАНДЛЕЎСКІ.**

# ЛІДАР МАЕ ПРАВА НА РАССЛАБЛЕНЬНЕ

Чарговыя сустрэчы ў першынстве УЕХЛ правялі хакеісты «Нёмана». Гульні з адвечным супернікам - наваполацкім «Палімірам» ня мелі ачковага значэньня, але насілі, як заўжды, прынцыповы характар. Тым больш ёсьць падставы меркаваць, што адзін з клубаў сёлета адбярэ тытул чэмпіёна краіны ў «разабранага» сталічнага «Цівалі». Падзеі абодвух матчаў разгортваліся па аднаму сцэнару. Гарадзенцы ўпэўнена вялі ў ліку, а ў заключных перыядах дазвалялі сабе пэўнае піжонства і ледзь не гублялі здабытае. І ўсё ж «дзяжурныя» перамогі 5:3 і 3:2. У апошнім (па сутнасьці - трэніровачным) туры «Нёман» прымае ў лядовым палацы «Энергію» з Электрэнаю. Пасьля гэтага «з нуля» распачнуцца гульні другога этапу.

**Х.КАМЕНСКІ**

# ПАРЫЖ НЕ СКАРЫЛІ. АДГУЛЯЕМСЯ НА СЛАВЕНЦАХ?

**На жаль, другая сустрэча валейбалістаў "Камунальніка" у фінальнай лізе Кубка Кубкаў скончылася паразай.**

Сапернікам нашай каманды 17 студзеня быў уладальнік Кубка Францыі "Пары Сэн-Жэрмэн", які ў першым туры бясслаўна саступіў у Швайцарыі мясцоваму МТВ з лікам 0:3. Здавалася, у нашай каманды, якая напярэдадні разграміла галандзкі "Альком" былі перад гульнёй з французамі нядрэнныя шанцы. Аднак, ня гледзячы на стараньні гарадзенцаў, гаспадары пляцоўкі пры магутнай падтрымцы сваіх заўзятараў, якіх у спартыўным комплексе імя П'ера дэ Кубертэна сабралася нямала, усё ж перамаглі - .3:1.

24 студзеня у Горадні адбудзецца гульня 3-га тура. У госьці да "камунальнікаў" прыязджае славенскі "Марыбор". Пачатак сустрэчы а 17-ай гадзіне.

**В.Р.**

# СПАРТЫЎНЫЯ СКАНДАЛЫ: *ХІТ-ПАРАД - 96*

**Мінулы год падараваў гарадзенцам дастаткова спартыўных і каляспартыўных скандалаў. Нагадаем асноўныя - суд над старшынём аблспарткамітэту сп.Старавойтам, дыскваліфікацыя Аляксандра Курловіча, 0-7 ды 0-9 футбалістаў «Нёмана», крымінальныя прыгоды двух вядучых футбалістаў гэтай каманды, самазабойства лепшага футбольнага галкіпера апошніх гадоў Генрыха Саваша, грашовыя перадсезонныя праблемы хакеістаў «Нёмана» і г.д.**

Хіт-парад скандалаў 1996 году адкрылі хакеісткі «Рытма». Дакладней, гэта зрабілі за іх. Як ужо паведамляла «Пагоня», чуткі аб пераносе маючага адбыцца ў лютым турніры Кубка Эўранейскіх Чэмпіёнаў (група «Б») з Горадні ў менскія Стайкі на жаль, спраўдзіліся. Па словах галоўнага трэнера каманды Алы Грэсь, абласныя ўлады вырашылі, што дапамагаць у спорце трэба толькі абраным. Як ні дзіўна, у лік «набліжаных да імператара» спарцмэнкі самага тытулаванага клуба горада (чаго толькі вартая перамога ў Кубку Кубкаў) не ўвайшлі. За месяц да пачатку турніру такога ўзроўню мясцовыя ўлады фактычна адмовіліся дапамагаць у арганізацыі спаборніцтваў. Затое зайздросны спрыт і нюх на грошы праявіла кіраўніцтва спарткомплексу Стайкі. У выніку на вецер пайшла шматмесячная праца аргкамітэту ў Горадні, спартыўная зала на вуліцы Гагарына засталася без адпавядаючага сусьветным стандартам штучнага пакрыцьця, а аматары спорту - без выдатнага відовішча.

**В.М.**

# СУСТРЭЧЫ НА КАЛЯДЫ

**Беларускі Дэмакратычны Альянс ім.Вітаўта Вялікага і Гарадзенскі маладзёжны фотаклуб «Миг» ім. Юрыя Слабажаніна правялі ў СШ N18 сьвята «Сустрэчы на Калядах».**

Сьвяточная праграма пачалася з адкрыцьця фотавыставы «Народныя абрады», падрыхтаванай фотааматарамі Слоніма. На імпрэзе ўрачыста ўручылі дыпломы пераможцам баскетбольнага турніру «Сустрэчы на Калядах», які адбыўся напярэдадні сярод каманд школ горада. Першае месца ў каманды СШ N 18, другое - СШ N 27, трэцяе - СШ N 20.

Пасьля кароткай афіцыйнай часткі на сцэну выйшлі хлопцы з 27-ай школы з «Батлейкай». Адшліфаваная праграма ўразіла ўсіх прысутных. Міні-сьпектакль на роднай мове выклікаў шмат апладысьментаў слухачоў. Пасьля выступіў хор «Бацькаўшчына», які прасьпяваў лепшыя песьні з свайго рэпертуару. Але, як высьветлілася потым, цьвіком імпрэзы былі вучні СШ N 20, якія паказалі гледачам «Калядкі». Вельмі ўразіла майстэрства дзяцей. Бо гэта звычайныя вучні, не падрыхтаваныя да фальклёрных выступленьняў. Але выступалі яны выдатна.

**Васіль ГЛАДЫШАЎ, настаўнік СШ N 25.**

# ФЕСТЫВАЛЬ АДБУДЗЕЦЦА Ў ГОРАДНІ

**З 24-га па 26-га траўня гэтага года ў Горадні пройдзе першы Фестываль нацыянальных культур Беларусі.**

З гэтай нагоды 17-га студзеня ў абласным цэнтры адбылося пашыранае паседжаньне арганізацыйнага камітэту, на якім акрамя адказных асобаў мясцовай улады прысутнічалі прадстаўнікі Міністэрства культуры, журналісты цэнтральных і мясцовых сродкаў масавай інфармацыі, галоўныя рэжысёр і мастак Фестывалю.

На паседжаньні была прадстаўленая канцэпцыя правядзеньня сьвята, вызначаныя асноўныя фестывальныя пляцоўкі, разгледжаныя праект сімволікі і шэраг іншых арганізацыйных пытаньняў.

**В.Дрэма**

# СКАСАВАЛІ КНІЖКІ!

Разам з «згарэўшымі» у выніку розных грашовых рэформаў на ашчадных кніжках грашыма ў нябыт адыходзяць і самі кніжкі .

Сеньня ва ўсіх ашчадных касах Горадні ўстаноўлены кампутары, куды ўнесены патрэбныя дадзеныя пра кліентаў. Каб атрымаць грошы, дастаткова назваць сваё прозьвішча ды нумар рахунку.

Бывай, каменна-камуністычнае стагоддзе?

**В.Р.**

# СКАЎТАМ АДДАЛІ ПРЫБІРАЛЬНЮ

**"Дзякуй і за гэта", - вырашылі скауты і распачалі рамонт.**

Рашэньнем гарадзкіх уладаў , гарадзенскай харугве скаўтаў імя Давыда Гарадзенскага, у склад якой уваходзіць каля 50 сяброў, ўрэшце выдзелена памяшканьне ў сярэдняй школе N 5. Як высьветлілася - раней тут знаходзілася школьная прыбіральня. Зараз скаўты сваімі сіламі даводзяць будучую «штаб-кватэру» да людзкога выгляду.

**В.ДРЭМА**

# ХОЦЬ ТУТ ПРЫБЫТАК

У лістападзе-сьнежні минулага году егерская служба Наваградзкага раёну правяла ўлік бабровых паселішчаў. Выяўлены 33 бабровыя хаткі. Згодна з методыкай падліку тут павінна жыць каля 140 баброў. Прыемна, што іх стала на 30 штук болей, чым было год назад

**Ігнат ХІТРОВІЧ.**



# КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

## СІНЯЯ БАРАДА З ТУЛЫ

У доме па вуліцы Болдзіна ў Гродне быў знойдзены, бяз бачных прыкмет гвалтоўнай сьмерці, труп 45-гадовай гаспадыні. Ускрыцьцё, аднак, паказала, што жанчына была задушана. Ужо на наступны дзень крымінальнаму вышуку Ленінскага РАУС удалося напасьці на сьлед злачынцы. Ім аказаўся 25-гадовы і раней судзімы жыхар Тульскай вобласьці. Дарэчы, ён быў затрыманы ў доме новай каханкі, якая пражывае ў Гродзенскім раёне.

## СПРЫТНЫЯ «ЖЫВЁЛАВОДЫ»

Зайздросную спрытнасьць выявілі двое адказных работнікаў калгаса імя Дзяржынскага Зэльвенскага раёну. Па дамоўленасьці з калгасным вадзіцелем яны здалі на мясакамбінат так званую лішнюю карову, а атрыманыя грошы - падзялілі.

## «МАЦНЕЮЦЬ»ПАМЕЖНЫЯ СУВЯЗІ

Ноччу з калгаснай фермы ў вёсцы Каменны Лог у Ашмянскім раёне двое грамадзян Летувы з Віленскага раёну ўкралі каня. Але міліцыя кінулася ў пагоню і пасьпела затрымаць злодзеяў. Па папярэдніх дадзеных на іх «рахунку» - 9 крадзяжоў жывёлы на тэрыторыі раёну.

## ЗАЙЗДРОСНЫЯ АПЕТЫТЫ

У мінулую пятніцу вечарам былі затрыманы грузчык і нідзе непрацуючы гарадзенец, якія спрабавалі ўкрасьці 80 кілаграмаў мяса з Гарадзенскага мясакамбіната. Падчас іх затрыманьня работнікам міліцыі давялося, нават, зрабіць папераджальны стрэл угору. Яшчэ адзін работнік камбіната пагарэў пры спробе крадзяжу 82 кілаграмаў мясапрадуктаў.

**Г.ПРЫСМАК.**

ПАГОНЯ
Рэдактар МІКОЛА МАРКЕВІЧ
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА"
Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.
Тэлефоны: (0152) 45-35-61, 45-41-83
E-mail: dimos@pagonia.belpak.grodno.by
FREESPACE BBS 0152-453-714
Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.
Пры перадруку спасылка абавязкова.
Індэкс 63124.
Гарадзенская абласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул. Паліграфістаў, 4.
Заказ 236 Рэгістрацыйны нумар 465
Наклад 10185 паасобнікаў.
Нумар падпісаны да друку у 16.00, 18.01.96